# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№2 (2508)

9 студзеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.


## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Дзед і ўнучка.

Фота Віктара СТАВЕРА.

БЕЛАРУСКІЯ ПАДВОЙНЫЯ ДЫВАНЫ

## ВЯРТАННЕ Ў СПАДЧЫНУ

Выстава "Падвойныя дываны са зборў Польшчы і Беларусі", арганізаваная Беларускім інстытутам праблем культуры, Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі, Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеем і Музеем Акруговым у Беластоку, дала магчымасць упершыню пазнаёміць мінскіх гледачоў і даследчыкаў беларускага народнага ткацтва з такой цікавай і амаль занядбанай у Беларусі пасля другой сусветнай вайны мастацкай з'явай, як падвойныя дываны.

Іх мастацкія якасці і назва "падвойныя" (у сэнсе двухасноўныя) вынікаюць з асаблівасці тэхнікі выканання. Кожны дыван нібы складзены з дзвюх асобна тканых двухколерных ваўняных тканін, з'ёднаных між сабой у месцах узору і ўздоўж яго краёў. Прадзеныя ўручную даволі тоўстыя ваўняныя ніткі надаюць дывану пэўную пругкасць, а ўзорам — нізкую пукатую рэльефнасць.

Гэта своеасаблівая тэхніка выконваецца на гарызантальным ткацкім станку,

(Працяг на 7-й стар.).

ЛЮДЗІ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

## ВІНЦЭНТ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ: «...МЫ НЯ ВЫРАКЛІСЯ СВАЙГО КРАЮ...»

Пра асобу Вінцэнта Жук-Грышкевіча — педагога, літаратуразнаўцы, гісторыка, аднаго з лідэраў беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі міжваеннага часу, адметнага грамадска-палітычнага дзеяча беларускай эміграцыі — і па сёння яшчэ да крыўднага мала што вядома шырокай грамадскасці на бацькаўшчыне. Афіцыйныя ўлады дзесяцігоддзямі ствараілі вобраз эмігрантаў як адшчапенцаў, шукальнікаў лёгкага хлеба, а тых замежных суродзічаў, што аказаліся ў апазіцыі да савецкай таталітарнай сістэмы, не адракліся ад роднай мовы, сваёй гісторыі, адмоўна ставіліся да працэсаў дэнацыяналізацыі беларускага народа, занядбання яго культуры і гістарычнай спадчыны, аб'яўлялі "буржуазнымі нацыяналістамі", а то і здраднікамі. Толькі апошнім часам пачалося вяртанне ў айчынную гісторыю той часткі беларускага народа, якая па розных прычынах асела за межамі бацькаўшчыны, а таксама тых яе верных сыноў, што і на чужыне заўжды жылі Беларуссю, засталіся яе вялікімі патрыётамі.

У мястэчку Будслаў Віленскага павета Віленскай губерні 10 (23) лютага 1903 года ў сям'і беларусаў Марыі і Антона Грышкевічаў, незаможных хлебаробаў, паявілася на свет шостае дзіця — Вінцэнт. Менавіта сям'я і Будслаў з яго своеасаблівым каларытам, стыхіяй тагачаснага народнага жыцця заклалі ў характары хлапчука працавітасць, любоў да роднага слова і песні, зямлі сваіх продкаў, цікавасць да беларускага жыцця. Мястэчка з велічным касцёлам Узнясення Божай Маці, шматгадовай традыцыяй правядзення 2 ліпеня кірмашу і фэсту, якія збіралі тысячы сялян з навакольных вёсак, было прыкметным рэлігійным, культурным, гандлёвым цэнтрам і моцна паўплывала на яго светаўспрыманне. Бацькі Вінцэнта былі набожнымі католікамі, і ён таксама змалку пачаў прыслужваць у касцёле падчас імшы, захапляўся непаўторнасцю, узнёсласцю арганнай духоўнай музыкі. Маці яго мела цудоўны голас, ведала багата народных песень і вечарамі за прадзівам спявала. Вінцэнт таксама быў музыкальнай натурай, граў на скрыпцы і гармоніку, таму яго запрашалі на вечарыны і вяселлі, і ўжо нейкі заробак прыносіў дамоў. Гэта было дарэчы, бо малазямельнай сям'і даводзілася падрабляць іншай працай. У Будславе Вінцэнт скончыў двухкласнае прыходскае вучылішча ў 1915 годзе, чытаў ужо беларускія календары і віленскую "Нашу ніву". Сур'ёзнага здольнага падлетка заможныя сяляне суседняй вёскі Васілеўшчыны запрашалі хатнім настаўнікам.

Але быў гэта складаны, няўстойлівы час, працягвалася першая сусветная вайна, якая падзяліла фронтам Беларусь на акупіраваную немцамі тэрыторыю і тую, што ўтрымлівалася войскамі Расіі. Навальніцай пранесліся лютаўская, а затым і кастрычніцкая рэвалюцыі. У віхуры гэтых падзей Вінцэнт — пісар Усерасійскага земскага саюза, які быў прыдадзены Камітэту паўночна-заходняга фронту і пераехаў у Мінск, 14-гадовым падлеткам стаў сведкам разгону бальшавіцкай уладай (ёю ж дазволенага) першага Усебеларускага




НА ЗДЫМКУ: памятны Крыж 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі (Мідлянд. Канада).

(Заканчэнне на 5-й стар.).

АСТРАНОМІЯ — ХОБІ, ЗАХАПЛЕННЕ? ПРАФЕСІЯ!

## ЦЁПЛЫЯ ПАЧУЦЦІ ПАД ХАЛОДНЫМ СВЯТЛОМ ЗОРАК

***Урэшце, астраномія для нашай краіны, мяркуючы па ўсім, рэч далёка не актуальная (можа таму, што з зямнымі праблемамі ніяк не разбяромся). І шкада. Бо той, хто глядзіць толькі пад ногі, ніколі не падымае вачэй да неба, рызыкуе зрабіцца сапраўды невідушчым. Праўда, Івана БРУХАНАВА гэта не тычыцца. Ён — астраном, кіраўнік астранамічнага гуртка Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў, каардынатар групы "Бетэльгейзе" па назіраннях пераменных і новых зорак. Яму слова.***

— Так, астраноміі як афіцыйнай навукі на Беларусі сёння няма, не было і ў савецкія часы. Можна гаварыць толькі пра яе зародкавы стан. Тым не менш ёсць людзі, што працуюць у гэтай галіне,— энтузіясты, астраномы-аматары. Яны ўжо амаль прафесіяналы, бо маюць значны вопыт назіранняў, друкуюць свае працы ў спецыялізаваных часопісах — расійскіх "Переменные звёзды", "Астрономический циркуляр", чэшскім "Персіт", англійскім "The Astronomer". Мне здаецца, увогуле нейкай рэзкай мяжы паміж астраномамі-прафесіяналамі і аматарамі не існуе: як першыя, так і другія шляхам назіранняў маюць шанс дасягнуць высокіх навуковых вынікаў. Магчыма, у гэтым спецыфіка данай навукі. Прычым не толькі ў нас, але і паўсюль у свеце. Хаця, не буду адмаўляць, аматараў больш цікавіць менавіта сузіральны аспект справы.

— Думаю, я не адзіная, хто менавіта так і ўяўляе сабе астранома — чалавекам, позірк якога ўвесь час скіраваны да зор.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ

## ЛАЎРЭАТЫ-96

**Указам Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ад 24 снежня 1996 года прысуджаны Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь 1996 года ў галіне навукі і тэхнікі, а таксама ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Памер Дзяржаўнай прэміі складае 200 мінімальных зарплат.**

Сярод лаўрэатаў 1996 года — СІДАРЭНКА Георгій Іванавіч, доктар медыцынскіх навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, галоўны навуковы кансультант Беларускага навукова-даследчага інстытута кардыялогіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, ПАЛАНЕЦКІ Леанід Захаравіч, доктар медыцынскіх навук, прафесар, загадчык лабараторыі неадкладнай кардыялогіі таго ж інстытута, ФРАЛОЎ Аляксандр Уладзіміравіч, доктар біялагічных навук, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, загадчык лабараторыі медыцынскіх інфармацыйных сістэм таго ж інстытута, НІКІЦІН Яраслаў Георгіевіч, доктар медыцынскіх навук, загадчык лабараторыі парушэнняў рытму таго ж інстытута, МІРОНЧЫК Уладзімір Уладзіміравіч, кандыдат медыцынскіх навук, загадчык лабараторыі электрафізіялагічных метадаў даследавання таго ж інстытута, ВАРАБ'ЁЎ Анатоль Паўлавіч, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута. Яны ўдастоены высокай узнагароды за цыкл работ "Стварэнне новых метадаў і апаратуры для дыягностыкі сардэчна-сасудзістых захворванняў на аснове мікрапрацэсарных і камп'ютэрных тэхналогій".

У галіне літаратуры прэмія імя Якуба Коласа прысуджаны: ДАЛІДОВІЧУ Генрыху Вацлававічу, празаіку — за раман "Заходнікі".

За творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва — АНІСКОВІЧУ Уладзіміру Ігнатавічу, КАРЫЗНУ Уладзіміру Іванавічу, ЛУКШУ Валянціну Антонавічу — за Бібліятэку дзіцячай літаратуры народаў СССР у 15 тамах (16 кнігах).

Міхаіл ФІНБЕРГ, мастацкі кіраўнік і дырэктар Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь, атрымаў званне лаўрэата за канцэртныя праграмы 1992—1995 гадоў.

Вядомы нашым замежным суайчыннікам мастак Міхаіл САВІЦКІ (былы старшыня праўлення Беларускага таварыства "Радзіма") адзначаны высокай узнагародай за вялікі ўклад у выяўленчае мастацтва Беларусі і работы апошніх год, а мастак Аляксандр КІШЧАНКА — за манументальны твор "Габелен стагоддзя".

МОСТ ПРАЗ МУХАВЕЦ



Перад Новым годам у строй дзеючых увайшоў больш чым кіламетровы мост праз раку Мухавец у Кобрыне. Ён звязаў права- і левабярэжныя часткі горада і раёна, многія населеныя пункты Кобрыншчыны сталі на некалькі дзесяткаў кіламетраў бліжэй да абласнога цэнтра Брэста, а вуліцы самога Кобрына разгрузіліся ад транзітнага транспарту.

НА ЗДЫМКУ: новы мост у горадзе Кобрыне.

ТАКОГА ПАКУЛЬ НЕ БЫЛО

## БІБЛІЯТЭКА АД «ЭКАЛАЙНА»

У Мінску пачала працаваць адкрытая экалагічная бібліятэка, якая не мае аналагаў у Беларусі.

Яна створана па ініцыятыве незалежнай некамерцыйнай арганізацыі "Экалайн" пры падтрымцы Беларускага фонду Сораса, Міжнароднага інстытута па радыеэкалогіі імя А. Сахарава.

Як сказаў выканаўчы дырэктар "Экалайна" Сяргей Анціпаў, гэтая бібліятэка стваралася на працягу года. Яна налічвае 500 крыніц друкаванай і электроннай інфармацыі, падораных айчыннымі, замежнымі няўрадавымі арганізацыямі, асабіста супрацоўнікамі "Экалайна". Бібліятэка падключана да сеткі INTERNET.

БУДУЕЦЦА КОМПЛЕКС У РАТАМЦЫ





Новая грамадская арганізацыя ствараецца ў Мінскай вобласці. Пакуль яе называюць таварыствам "Сусветная падтрымка". На ўстаноўчым сходзе, які прайшоў у пасёлку Ратамка, першымі членамі сталі галоўныя ўрачы дванаццаці раённых і ўчастковых бальніц вобласці, прадстаўнікі абласной і раённых устаноў аховы здароўя. Запрашаюцца ўсе жадаючыя грамадзяне і калектывы арганізацый. І беларускія, і замежныя. Галоўнымі мэтамі і задачамі таварыства з'яўляецца: медыцынская, матэрыяльная і гуманітарная дапамога насельніцтву, аказанне матэрыяльнай дапамогі сельскім і раённым медыцынскім установам.

Прэзідэнтам створанага таварыства аднагалосна абраны грамадзянін ЗША Марк Роўз. Трэці год прыязджае ён у пасёлак Ратамка. Пачаў гэты энергічны чалавек сваю дзейнасць з аказання гуманітарнай дапамогі хворым і маламаёмным Ратамкі. Мінулым летам яго стараннямі на дабрачынныя сродкі, што паступілі з ЗША, была капітальна адрамантавана ратамская ўчастковая бальніца. Марк Роўз з дазволу мясцовых улад разгарнуў у Ратамцы буйное будаўніцтва арыгінальнага комплексу, што ўключае медыцынскі дыягнастычны цэнтр, бальніцу, царкву, стадыён са спартыўнымі збудаваннямі і бейсбольнае поле.

— Нашу дзейнасць у Беларусі, — сказаў на ўстаноўчым сходзе Марк Роўз, — падтрымлівае ў Амерыцы ўжо чатырыста цэркваў і больш за сто тысяч іх прыхаджан.

НА ЗДЫМКАХ: Марк РОЎЗ (справа) на будаўнічай пляцоўцы адказвае на пытанні заснавальнікаў новага таварыства; макет лячэбна-спартыўнага комплексу, што будуецца ў пасёлку Ратамка.

СВАІМІ РУКАМІ




Напярэдадні Новага года ў сярэдняй школе № 31 Віцебска прайшоў калядны кірмаш. На ім вучні прадставілі свае вырабы з саломкі і дрэва, металу і керамікі, зімнія малюнкі.

Кірмаш суправаджаўся песнямі і танцамі.

НА ЗДЫМКУ: свае вырабы з саломкі паказваюць Юля ШЫЯНАВА, Оля УЛАСЕВІЧ і Іра КАПУСЦІНА.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## ПАДАРУНАК У 55 ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ

Добры падарунак пад Новы год паднесла жыхарам сталіцы амерыканская фармацэўтычная кампанія "Фармацыя і Апджон", якая бясплатна перадала Мінскаму гарадскому камітэту аховы здароўя медыцынскіх прэпаратаў на суму 55 тысяч долараў, — гэта антыбіётыкі, лякарствы для акушэрства і гінекалогіі, хірургіі, рэанімацыі... Усе прэпараты ўжо вядомыя ў медыцынскім свеце, добра зарэкамендавалі сябе ў многіх краінах пры лячэнні розных хвароб, у тым ліку і ў Беларусі, прызначаны для вядучых клінік Мінска.

ГОД ШАНСАЎ

## ПЕРАДСВЯТОЧНЫЯ АЎКЦЫЁНЫ

**129 аўкцыёнаў, на якіх прададзены 321 аб'ект камунальнай уласнасці, што дало мясцовым бюджэтам больш за 87 мільярдаў рублёў даходу, — такі вынік тэхнічнай дапамогі, якую Міжнародная фінансавая карпарацыя аказала Беларусі ў 1996 годзе.**

У перадсвяточныя дні ў Навагрудку, Оршы, Віцебску, Гомелі, Пінску прайшлі яшчэ 5 аўкцыёнаў малой прыватызацыі. Новых гаспадароў набылі магазіны і кафэ ў гістарычным цэнтры Навагрудка, а таксама нежылыя цагляныя будынкі з дзялянкай зямлі. У Оршы прадаюцца прадпрыемствы грамадскага харчавання і склады непадалёку ад рыначнай плошчы, у Віцебску — недабудаваная 16-павярховая гасцініца "Лучэса", а ў Гомелі і Пінску — магазіны.

Як адзначыў, падводзячы вынікі перад Калядамі, кіраўнік праекта МФК Эрык Хаўэл, у цэлым год аказаўся ўдалым, багатым на вынікі. Малая прыватызацыя паскорылася, асабліва ў другім паўгоддзі, калі даходы выраслі ў 3 разы. Гэта адбылося дзякуючы рашучасці выканаўчай улады і прагрэсіўным зменам у заканадаўстве.

МАЛАДЫ СПЕЦЫЯЛІСТ



Пасля заканчэння Гродзенскага медыцынскага інстытута Алена ХАМБАК (на здымку) паехала працаваць участковым тэрапеўтам у Ганцавіцкую раённую бальніцу — бліжэй да роднай вёскі Лахва, што ў суседнім Лунінецкім раёне. Цяпер у яе каля дзвюх тысяч пацыентаў, усім ім Алена стараецца ўдзяліць увагу, акружыць кожнага клопатам.

МІНСКАЕ МЕТРО

## ШТО ПРЫНЯСЕ ГОД 1997?

Да ўвядзення ў эксплуатацыю двух новых станцый метро — "Партызанскай" і "Аўтазаводскай" — засталося ўжо менш года. Якімі тэмпамі ідзе будаўніцтва? Ці дачакаюцца мінчане іх увядзення ва ўстаноўлены планамі тэрмін — чацвёрты квартал 1997 года? Як паведаміў штотыднёвіку "7 дзён" намеснік галоўнага інжынера дзяржаўнага будаўнічага прадпрыемства "Мінскметрабуд" Уладзімір Карпаў, работы па будаўніцтву новых станцый вядуцца паспяхова. Поўнасцю пабудаваны перагонныя тунелі, змантаваны канструкцыі абодвух аб'ектаў, вядзецца будаўніцтва ўваходаў. Ужо пачаты архітэктурна-аддзелачныя і электратэхнічныя работы, мантаж пуці, наладжванне ўнутраных сантэхнічных сетак водаправода, каналізацыі, вентыляцыі.

Архітэктурнае аздабленне станцыі "Партызанская" адпавядае яе назве. Сцены з чорнага граніту і белага мармуру ўключаюць у сябе розныя мастацкія кампазіцыі, якія адлюстроўваюць сцэны партызанскага жыцця.

— Наступны запланаваны ўчастак аўтазаводскай лініі, — сказаў У. Карпаў, — злучыць станцыі "Аўтазаводская" і "Магілёўская", выхады якой будуць размешчаны на вуліцы Ангарскай. Будаўніцтва новай станцыі завершыцца ўжо праз некалькі гадоў, у далейшым жа гэтая лінія прадоўжыцца ў мікраён Шабаны. З другога боку веткі, пасля станцыі "Пушкінская", будзе пабудавана "Ракаўская" (раён перасячэння вуліц Прытыцкага і Жудро), потым "Кунцаўшчына" (каля універсама "Талін"), затым "Каменная горка" (на перасячэнні вуліц Прытыцкага і Лабанка) і, нарэшце, "Чырвоны бор", якая размесціцца ў раёне Ракаўскай шашы. Яны будуць пушчаны праз пяць-шэсць гадоў.

# ЦЁПЛЫЯ ПАЧУЦЦІ ПАД ХАЛОДНЫМ СВЯТЛОМ ЗОРАК

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

— Ну чаму толькі так? Сучасны астраном працуе, нават не выходзячы з кабінета, з данымі, атрыманымі з аўтаматызаваных тэлескопаў. Але, падкрэслю, нават дзедаўскімі метадамі і сёння можна дасягаць значных вынікаў.

— Ці аб'яднаны беларускія астраномы-аматары ў якую-небудзь арганізацыю?

— На жаль, толькі ў нефармальную і нідзе не зарэгістраваную — нешта накшталт "сяброўства па перапісцы". На больш патрэбны грошы, якіх, як і паўсюль у нас у краіне, хранічна нестае. Дарэчы, мяркую, у савецкія часы пры жаданні стварыць нейкую суполку было б значна лягчэй, зараз жа — не. У выніку няма ні сапраўднага інфармацыйнага забеспячэння, ні адпаведнай аператыўнай сувязі паміж намі. Хаця на цяперашні час на Беларусі ёсць чалавек трыццаць, хто сістэматычна займаецца візуальнымі, фатаграфічнымі астранамічнымі назіраннямі.

— Колькі ўжо часу асабіста вы ўзіраецеся ў неба?

— Пачынаўся ўсё са школы, і сёння маю дзевятнаццаць гадоў няспынных астранамічных назіранняў, шэраг публікацый у спецыялізаваных выданнях, пра якія ўжо згадваў.

— Дзе ў нас можна ажыццяўляць астранамічныя даследаванні, не будзеце ж вы гэта рабіць, седзячы на лавачцы ў двары?

— Не здзіўляйцеся, але нешта магчыма ўбачыць нават з той жа лавачкі няўзброеным вокам ці з дапамогай бінокля, невялікага тэлескопа. Напрыклад, метэоры, пераменныя зоркі, каметы, кароткачасовыя і нестацыянарныя з'явы на Месяцы — успышкі, з'яўленне і знікненне чорных і каляровых плямаў, змену канфігурацый розных дэталяў на паверхні планеты.

— Тым не менш, для сур'ёзных даследаванняў бінокля малавата.

— Канешне. Часам працую ў Маскве, у Астранамічным інстытуце імя Штэрнберга, дзе ёсць выдатная фотатэка з матэрыяламі назіранняў, пачынаючы з 1896 года, а таксама езджу на астранамічную станцыю пад Адэсай у пасёлку Маякі. Гэта бывае рэдка, але там ёсць магчымасць працаваць на прафесійнай аснове.

— Для такіх паездак патрэбна шмат грошай.

— Астраномы ставяцца адзін да аднаго па-брацку.

— Іван Сяргеевіч, цікава, а бывае так: паглядзіце вы на неба і гаворыце сабе: "Ага, той зорачкі ўчора яшчэ не было?"

— Калі яна вельмі яркая, магчыма і такое. Але перш чым зрабіць падобную выснову, я ўсё ж пераправеру па атласах і каталогах.

Канешне, звычка, выходзячы з дому, аўтаматычна зірнуць уверх ужо склалася. Прынамсі, для таго каб вызначыць надвор'е — ці дазволіць яно нешта ўбачыць на небе.

Тут, на станцыі, ёсць тэлескоп, якім я маю магчымасць карыстацца. Шкада, зноў вельмі пахмурна, а то можна было б паглядзець на Месяц. Вы проста ахнулі б, наколькі гэта незвычайнае і цудоўнае відовішча.

— Мне часам здаецца, што ваша работа падобная на рамантычнае юнацкае захапленне. Назіранне зорак, нёба прадугледжвае пэўную музыку, паэзію ў душы.

— Правільна, з аднаго боку, так яно і ёсць. А з другога, наша праца, асабліва ў фотатэках, досыць цяжкая і манатонная.

— Дзевятнаццаць год бесперапынных назіранняў павінны былі прывесці да канкрэтных вынікаў, якімі вы ганарыцеся.

— На маім рахунку трынаццаць зарэгістраваных адкрыццяў новых зорак. Столькі ж, а можа і больш, ёсць аб'ектаў, за якімі трэба яшчэ паназіраць.

— Ці называюць зоркі імёнамі адкрывальнікаў?

— Не, так адбываецца толькі з каметамі. А зоркам у каталогах даюць нумар ці спецыяльны код.

— А прыгожыя назвы?

— Вельмі рэдка.

Калі яшчэ гаварыць пра пэўныя вынікі, то лічу дасягненнем, агульным сваім і майго калегі Віктара Аскіркі, назіранне за зацьменнем зоркі дэльта Вялікай Мядзведзіцы. Дарэчы, ці ведаеце вы, што ў астраноміі першаадкрывальнікам лічыцца не той, хто першы заўважыў, а той, хто першы публічна паведаміў?



— Сапраўдная гонка. Атрымліваецца, пабачыў нешта новае і цікавае — маўчы, каб канкурэнт дарогу не перабег?

— Не зусім так. Пабачыў нешта новае і цікавае — старайся хутчэй апрацаваць атрыманы матэрыял і, калі вынік пацвердзіўся, хутчэй паведамі пра яго. Ты ж не адзін за небам назіраеш. Магчыма, нехта яшчэ тую ж самую з'яву заўважыў.

— Якое ваша першае адкрыццё?

— Сваім першым адкрыццём я лічу не зорку, а адну са з'яў, звязаных з зоркай Паўночнай Кароны ў 1985 годзе. А зорка была пазней — у сузор'і Блізнятаў.

— Ведаеце зорнае неба на памяць?

— Працэнтаў 70—80 небасхілу паўночнага паўшар'я — там, дзе працую.

— Іван Сяргеевіч, вы — рамантык?

— Хутчэй, так. Прынамсі, я адчуваю прыгажосць зорнага неба. Бо калі быць цалкам прагматыкам, то, мне здаецца, можна працаваць, працаваць, працаваць, але так і...

— ...не ўбачыць "сваю" зорку?

— Так альбо нават "зламацца".

— Ці ёсць у вас любімае сузор'е?

— Сузор'е Блізнят. Там адно з маіх першых адкрыццяў і больш за ўсё зорак, якія я назіраў, фатаграфаваў, менавіта там я чакаю і новыя вынікі.

— Што ж, прагматычны момант прысутнічае і тут. А з эстэтычнага боку якое сузор'е здаецца вам найбольш гарманічным, нібы дасканалым творам нейкага невядомага мастака?

— Сузор'е Лебедзя. Яно асабліва прыгожа, проста чароўна выглядае летняй ноччу, калі неба літаральна ўсеяна зоркамі.

— А як вы ставіцеся да астралогіі? Яны ж у нейкім сэнсе амаль калегі вам?

— Стаўлюся неадназначна. Да тых, хто працуе па разнастайных старадаўніх формулах,— адмоўна, бо яны, у прыватнасці, не ўлічваюць, што нябесная сфера і зоркі мяняюць сваё знаходжанне, а таму іх прагнозы не адпавядаюць рэальнасці. Увогуле асабіста я ў астралогію не веру.

— А ў іншапланецян?

— Я б сказаў, так. Зыходзячы з філасофскага пункту гледжання, абсалют ці выключэнне — рэч нерэальная, а таму не магу пагадзіцца, што акрамя зямлян у Сусвеце больш нікога няма.

— Як наконт НЛА?

— Мне падаецца гэтае пытанне досыць спрэчным. Асабіста я за ўсе гады назіранняў з падобнай з'явай не сутыкаўся.

— Іван Сяргеевіч, пра свет зорак нярэдка кажуць, што ён халодны, бледны, змярцвелы. Вы згодныя з гэтым?

— Не. Хаця слабенькія зоркі так і выглядаюць. А яркія зоркі — яны ж усе каляровыя, энергічныя, прыцягальныя.

— Такім чынам, неба — своеасаблівы жывы арганізм?

— Можна сказаць і так.

Гутарку вяла
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

---

НАША ШТОДЗЁННАЕ ЖЫЦЦЁ

## КАЛІ ЗВОНЯЦЬ ЗВАНЫ

Кожны раз нас нібы штосьці вядзе ў царкву: ці то неспакой, трывога, просьба, ці ўдзячнасць, радасць. Кожны ідзе са сваімі думкамі. Прыходзіць, ставіць свечку за здароўе ці за спачын, стаіць, слухае службу, потым ідзе дадому. Здаецца, нічога невядомага няма. Сотні, тысячы, мільёны людзей вось так прыходзяць, моляцца за сваю справу, якая адна і тая ж ва ўсіх. Здаецца, мы ведаем, як дзейнічае царкоўны механізм. Ці ведаем?.. Царква — гэта не толькі гучны голас бацюшкі і мернае спяванне жанчын, гэта не толькі мноства агеньчыкаў-успамінаў аб жывых і мёртвых, гэта не толькі споведзь і прычасце. Гэта яшчэ і кульгавыя, хворыя, убогія па-за сценамі храма. Мы думаем, што маем уяўленне аб царкве, але калі больш пільна прыглядзецца, то пераканаемся, што ведаем не ўсё.

Падымаюся па ўзгорку да белага храма — Мінскага кафедральнага сабора. Тут і паназіраю.

Прыходзяць моладзь, старыя, але ж найбольш людзі сярэдняга веку. Для сябе адзначаю, што калі яшчэ гады два назад мужчын у царкве амаль не было, цяпер іх значна больш, розных, пачынаючы з хлапцоў у джынсах і канчаючы прадстаўнікамі дзелавога свету. Назіраю, як раздаюць грошы старэнькім бабулькам, якія працягваюць рукі, каму па сто рублёў, каму па тысячы. Да трох бабулек, што сядзяць на прыступках храма, падышла жанчына і чайнай лыжачкай паклала ім на далоні нейкую кашу з пластмасавай шклянкі. Дасталася ім па лыжцы, і бабулі хрысціцца, жадаюць шчасця, здароўя, каб Бог мілаваў. З асалодаю павольна пeражоўваюць яны кашу і глядзяць дзіцячымі вачыма на прахожых. Людзі падыходзяць, даюць грошы. Потым падцягваюцца яшчэ бабулькі і дзядкі, калекі. Ім прапануюць такія ж, як яны, небаракі, куды лепей стаць. Сярод іх нецяжка заўважыць тых, хто сам просіць, ходзіць следам, і тых, хто моўчкі стаіць ці сядзіць. "Перападае" шустрэйшаму. Заўважыўшы добра апранутага чалавека, яны кідаюцца насустрач. Калі даюць некаму аднаму, падыходзяць і астатнія.

Маю ўвагу прыцягвае бабулька, што стаіць убаку і пераглядае свой маленькі скарб. Даведваюся, што бабульцы 83 гады. Яе пенсіі — 300 тысяч рублёў — хапае толькі заплаціць за жыллё. Нехта ёй параіў: "Чаго ж ты ляжыш ды з голаду паміраеш? Ідзі да царквы". Вось і прыходзіць яна ў выхадныя да дзвярэй храма, каб добрыя людзі дапамаглі. "А ці добрыя?" — пытаюся ў бабулькі. Яна апускае галаву. "Гм... людзі ўсюды ашукваюць: і ў магазіне, і свае", — з болем у старэчым голасе кажа яна. Суседкі па дому чакаюць, каб хутчэй баба Насця памерла, і хуткую дапамогу бабульцы прыходзіцца выклікаць самой.

Царква — гэта не толькі месца, да якога вядуць духоўныя пошукі, якое дае збавенне ад граху. Гэта яшчэ і той кацёл, які корміць тых, чыё цяперашняе жыццё пад вялікім пытаннем. Гэта, пэўна, адзінае месца, дзе яны — абяздоленыя, хворыя, калекі — маюць шанс атрымаць ад людзей дапамогу.

**Наталля СУРАЕВА.**

---

ПОЛЬСКАЯ ШКОЛА Ў БЕЛАРУСІ






**Вось ужо пяць гадоў бацькі польскай нацыянальнасці могуць адпраўляць сваіх дзяцей для навучання роднай мове, літаратуры, гісторыі польскага краю ў Брэсцкую школу № 9. Выкладанне тут вядуць як мясцовыя, так і запрошаныя з суседняй Польшчы педагогі. Міністэрствам адукацыі Беларусі сумесна з польскім бокам распрацаваны цікавыя навучальныя планы. Пры абучэнні выкарыстоўваюцца не толькі польскія, але і беларускія падручнікі на польскай мове. Навучальная праграма складзена так, што дзеці будуць ведаць дасканала не толькі польскую, але і рускую, беларускую, а дадаткова — англійскую, нямецкую, іспанскую (па выбару) мовы.**

**НА ЗДЫМКАХ: карту сучаснай Польшчы з цікавасцю вывучаюць вучні 4-га класа Марына ЖУК і Стас СКАНЦАЎ; выкладчык 4-га класа Валянціна ПШЫБЫЛЬСКА два гады працуе ў Брэсце. Раней яна вучыла дзяцей сваіх суайчыннікаў на Украіне, у Казахстане.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

# НАС ВІНШУЮЦЬ

"Голасу Радзімы" найлепшыя зычанні і віншаванні з Калядамі і Новым годам!

Жадаем поспехаў не толькі ў пашырэнні роднага слова між суайчыннікамі за межамі Бацькаўшчыны, але і ў абароне роднага слова між так мала нацыянальна свядомага, атуманенага прапагандай беларускага народа.

**БУДКЕВІЧЫ.**

Англія.

* * *

Віншую ўсіх з Нараджэннем Хрыстовым!

Ад шчырага сэрца зычу вам моцнага здароўя і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.

З Новым, 1997 годам!

З надзеяй на лепшыя дні. Калі падымеце бакалы ў навагоднюю ноч, успомніце, што на чужыне ёсць Леанарда Мартынаўна, якая апоўначы ўзнімае бакал за ваша здароўе, за маю Беларусь.

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

* * *

Мае глыбокапаважаныя!

Шлю вам усім святочныя віншаванні!

Жадаю, каб у новым годзе мелі многа шчасця і радасці, каб хапіла на ўсіх і ласкі, і цеплыні, каб шанцавала ў кожнай добрай справе. Няхай ніколі не стамляюцца вашы сэрцы.

**Лідзія ПІНЧУК.**

Іспанія.

* * *

Вітаем "Голас Радзімы" са святамі Нараджэння Божага і Новым годам!

Зычым вам здароўя і вытрываласці ў працы над выданнем "Голасу Радзімы". Спадзяемся, што Беларусь будзе дэмакратычнай прававой дзяржавай, а беларуская мова будзе ва ўсіх у пашане.

**Тамара і Міхась БЕЛЯМУКІ.**

ЗША.

* * *

Усяго найлепшага супрацоўнікам "Голасу Радзімы"!

**ДАНЧЫК.**

* * *

Добры дзень, паважаныя спадары, работнікі рэдакцыі!

Перш за ўсё хачу падзякаваць вам за газету, якая дае магчымасць мне быць у курсе ўсіх падзей, што так бурна кіпяць на маёй Радзіме, а таксама павіншаваць з Новым годам ваш калектыў. Дабра вам усім і згоды ў наступным годзе!

Крыху пра балючую для ўсіх нас тэму — палітыку, ад яе нікуды не дзенешся, пакуль поўзаеш па гэтай звар'яцелай планеце.

Не бяруся нікога вучыць, гэта роля дужа няўдзячная, але выказаць свае думкі мо будзе для мяне хоць самога лягчэй. З боку, як кажуць, відней, але згадзіцца з гэтым можна не заўсёды, бо я не жыву сярод землякоў, дзе адразу пачуеш агульны настрой, сімпатыі і нянавісць.

Але і на адлегласці, праз сціплы ручаёк інфармацыі, ужо можна пабачыць, хто ёсць хто.

Не трэба Беларусі НАТО, не трэба ні Дудаевых, ні галаварэзаў Басаевых!

Усім нам патрэбны стабільны мір, каб народ мог спакойна рабіць на сваёй зямлі.

Ах, як хочацца кожнаму паруліць у гэты бясконцы шторм, адзін круціць улева (на захад), другі — направа (Расія), але капітан павінен быць адзін, і ён нясе адказнасць за курс і лоцыю!

**А. БЕНЕДЗІКТОВІЧ.**

Расійская Федэрацыя,
Татарстан.

* * *

Вельмі шаноўнае спадарства, супрацоўнікі і чытачы газеты "Голас Радзімы"!

Дазвольце ад усяго сэрца павіншаваць усіх вас, вашых сваякоў ды блізкіх з Нараджэннем Хрыстовым і Новым, 1997 годам!

Шчасця, поспехаў, здабыткаў, моцнага здароўя і лепшай долі беларускаму народу і ўсім людзям у свеце, хто любіць наш народ і жадае яму дабра!

**Пятрусь КАПЧЫК.**

Украіна,
г. Ізяслаў.

* * *

Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

З надыходзячымі святамі Каляд і Новага года, 1997!

Перасылаю вам шчырыя віншаванні ды найлепшыя пажаданні!

Зычу ўсяго добрага ў новым годзе вам і ўсяму беларускаму народу.

**Браніслаў АЎГУСЦІНОВІЧ.**

Германія.

* * *

Вітаю супрацоўнікаў рэдакцыі "Голасу Радзімы" са святам Нараджэння Хрыстовага.

Зычу ўсяго найлепшага ў новым — 1997 годзе!

**Янка КАЛБАСА.**

Англія.

* * *

Ад імя беларусаў Рэспублікі Малдова віншую рэдакцыю "Голасу Радзімы" са святамі Калядаў і Новага года!

Жадаю, каб "Голас Радзімы" для ўсіх нас, беларусаў замежжа, нягледзячы на ўсе абставіны, заставаўся крыніцай праўдзівай інфармацыі аб былым і сучасным нашай любай Радзімы — Беларусі.

Мы разумеем, што гэта нялёгкая праца, але вельмі нам патрэбная.

**Старшыня Рады Беларускай Грамады
ў Рэспубліцы Малдова
Уладзімір ДЗЯРЖЫЦКІ.**

# РЭВАЛЮЦЫЯНЕР-МЕНШАВІК З РАГАЧОВА

Гісторыя кастрычніцкіх падзей, перыяд усталявання Савецкай улады ў прасторы Расійскай імперыі ва ўсе мінулыя дзесяцігоддзі былі звязаны з гісторыяй фактычна партыі бальшавікоў. Пра астатняе, пра астатніх ці то маўчалі, ці то палівалі брудам. Такім быў ранейшы час. Сёння прыадчынены заслоны. З невядомасці, забыцця паўстаюць многія і многія імёны.

Адзін з невядомых для нас удзельнікаў кастрычніцкіх падзей — і наш зямляк Давід Далін (сапраўднае прозвішча — Левін). Нарадзіўся ён у Рагачове ў 1889 годзе. Пражыў доўгае жыццё, пакінуўшы гэты свет 21 лютага 1962 года ў Нью-Йорку, дзе знаходзіўся ў палітычнай эміграцыі. Але ж аб усім па парадку...

Давід Левін (партыйны, палітычны псеўданім прыйдзе да яго шмат пазней) вучыўся ў Віленскай гімназіі. Якімі былі для хлопчыка гэтыя гады? Можна хіба толькі здагадвацца з той альбо іншай доляй верагоднасці. Класічная гімназія патрабавала высокага напружання, вялікага старання ў вучобе. Пасля Вільні — Пецярбург, завяршэнне гімназічнай адукацыі. А следам — і вучоба на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, дзе і пачаўся ўдзел Давіда ў студэнцкім руху. Калі юнаку быў 21 год (у 1910), яго арыштоўваюць. Пасля нядоўгага астрожнага заключэння Левін эмігрыруе. Дапытлівы, апантаны ідэяй перабудовы грамадства, малады чалавек займаецца навукай. Вывучае палітэканомію ў Берлінскім і Гейдэльбергскім універсітэтах. Ужо ў 1913 годзе абараняе ў Гейдэльбергу доктарскую дысертацыю.

З дня ў дзень, наколькі гэта дазваляюць магчымасці, малады вучоны цікавіцца падзеямі ў Расіі. А пасля Лютаўскай рэвалюцыі вяртаецца ў Пецярбург. Адразу ж далучаецца да меншавікоў, займае прыкметнае месца ў іх інтэрнацыяналістычным крыле. Давіда Даліна абіраюць у Маскоўскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Таварышы па рэвалюцыйнай барацьбе даручаюць рэдагаванне газеты "Печатник". Наш зямляк праяўляе высокую адданасць, супрацоўнічае з цэнтральным органам меншавікоў "Рабочей Газетой". Друкуецца ў горкаўскім выданні "Новая жизнь". З жніўня на меншавіцкім з'ездзе Даліна выбіраюць кандыдатам у члены ЦК РСДРП (аб'яднанай).

На змену рэвалюцыйнай, палітычнай актыўнасці Даліна ў хуткім часе прыходзіць рэзкае непрыняцце і асуджэнне Кастрычніка. Якія ж прычыны гэтага? Чаму перамены, якіх не першы год дамагаўся асабіста, раптоўна перастаюць быць жаданымі? Часткова адказ — і ва ўспамінах Давіда Юльевіча. У 1988 годзе ў Вермонце пабачыць свет кніга "Меншавікі". Сярод іншых публікацый — і артыкул нашага земляка. І вось якая ў Даліна згадка пра Кастрычніцкую рэвалюцыю 1917 года: "Ад Кастрычніцкага перавароту застаўся ўспамін — уражанне аб дзіўнай слабасці супраціўлення, якое аказалася ніжэйшым за ўсялякія чаканні. Бязвусыя юнкеры і жаночыя батальёны выходзілі са зброяй на адно імгненне. Па-за Петраградам мясцовыя ўлады, хаця і не заўсёды без бою, хутка ўступалі. Керанскі ездзіў у пошуках дапамогі — і нічога не знайшоў. Шматмільённы фронт прыняў і фактычна прызнаў новы ўрад. У краіне правіла абуджэнне, але яшчэ шмат месяцаў заставалася да фарміравання вялікіх белых армій". Нежаданне бальшавікоў будаваць цывілізаваную ўладу, якая б улічыла клопаты ўсіх сацыяльных груп насельніцтва, вывела Даліна на другі бок барыкад. І ўсё ж Давід Юльевіч стараўся (і заклікаў да гэтага паплечнікаў) быць убаку ад лагера ўзброенага супраціўлення бальшавікам.

У лістападзе—снежні 1917 года Далін прымае ўдзел у надзвычайным з'ездзе РСДРП. Гэта быў ці не апошні з'езд, дзе бальшавікам і пра бальшавікоў сказалі праўду. Але ўсе праціўнікі Кастрычніка разумелі: за бальшавікамі — магутны атрад пралетарыяту. І фактычна захоп улады імі стаў магчымым толькі таму, што папярэдняя, Лютаўская рэвалюцыя, не задаволіла патрэб шырокіх мас у ліквідацыі вайны, перадачы сялянам зямлі, у рэгуляванні гаспадарчага жыцця краіны. Але ж трэба шукаць выйсце. Многія яго бачылі ў стварэнні рэвалюцыйнага адзінства паміж пралетарыятам і дробнабуржуазнай дэмакратыяй. Бальшавікі зрабілі іншы выбар — дыктатура...

Далін рэвалюцыі стаў непатрэбным. Неаднойчы новая ўлада яго арыштоўвала. А ў 1921 годзе Даліна выслалі за мяжу. У Берліне Давід Юльевіч пачаў супрацоўнічаць у "Социалистическом Вестнике". Часопіс заснаваў у Берліне Юлій Мартаў, які выехаў за мяжу яшчэ ў кастрычніку 1920 года. У лютым 1921-га Далін адправіўся дэлегатам ад РСДРП на Венскую канферэнцыю. Якраз там быў заснаваны так званы Венскі Інтэрнацыянал, які аб'яднаў цэнтрысцкія сацыялістычныя партыі. Праіснавала гэта аб'яднанне нядоўга — да 1923 года. Давід Юльевіч стараўся па-рознаму займацца палітыкай. Прымаў актыўны ўдзел у германскай сацыял-дэмакратычнай перыёдыцы.

У 1940 годзе пераехаў у ЗША, ад палітычных клопатаў адышоў. Напісаў 11 манаграфій, прысвечаных савецкай унутранай і знешняй палітыцы.

Такі вось лёс ураджэнца Рагачова, вучонага, палітыка Давіда Левіна, якога рэвалюцыйны рух зрабіў Давідам Даліным.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ПІЦЕРСКІЯ НАВІНЫ*

# НЕСПАДЗЯВАНЫ ЮБІЛЕЙ

У канцы снежня Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Санкт-Пецярбургу адзначыла 5-ю гадавіну выхаду ў свет першага нумара незалежнай газеты піцерскіх беларусаў "Родзічы".

Гартаючы яе яшчэ не пажоўклыя старонкі, дзівішся, наколькі жывым і аператыўным было гэта выданне, якое друкавалася на машынцы і тыражыравалася потым на ксераксе. Яно не мела выгляду сапраўднай газеты (ды і наклад быў невялікі — усяго 20—30 асобнікаў), распаўсюджвалася сярод сяброў суполкі, дзеля якіх яно ў рэшце рэшт і рабілася, але і Скарынаўскі цэнтр у Мінску, і Расійская нацыянальная бібліятэка (С-Пб.) маюць поўны камплект гэтай нефармальнай газеты.

"Родзічы" праіснавалі больш года: I нумар датаваны 21-м снежня 1991 г., X і апошні — 15-м студзеня 1993 г. І хаця газета была разлічана для патрэб піцерскай дыяспары, адгукалася яна не толькі на тыя падзеі, якія адбываліся ў беларускім асяродку, але і на Бацькаўшчыне. Напярэдадні Сходу беларусаў блізкага замежжа (Мінск, снежань 1992 г.) газета змясціла шэраг інтэрв'ю з найбольш цікавымі асобамі беларускай дыяспары Санкт-Пецярбурга, а пасля правядзення Схода надрукавала водгукі ўдзельнікаў — дэлегатаў ад "Паўночнай Пальміры".

Да другой значнай падзеі — Першага з'езда беларусаў свету — газета рыхтавалася па-іншаму. Улічваючы немагчымасць шырокага распаўсюджвання выдання (газета не мела для гэтага аніякіх сродкаў), рэдакцыя вырашыла перайсці на новую форму існавання: фактычна яна перастала выходзіць у тым выглядзе, які мела раней, і пачала рэгулярна змяшчаць свае матэрыялы ў беларускім друку, што адразу пашырыла кола яе чытачоў, якія, напэўна, і не здагадваліся, што маюць справу з піцерскім выданнем. Шэраг артыкулаў абмяркоўваў як падрыхтоўку да з'езда беларусаў свету, так і яго вынікі. Шмат якія праблемы, што хвалявалі тагачасную грамадскасць і адлюстраванне якіх знайшло месца на старонках беларускіх газет, не страцілі сваёй актуальнасці і цяпер.

Што датычыцца жыцця піцерскай дыяспары мінулых гадоў, то яно вельмі жыва ўяўляецца, калі пагартаць старонкі "Родзічаў". Прапануем вашай увазе некалькі матэрыялаў з гэтага выдання:

### «ЖАРТАЎНІКІ» З ТЭЛЕВІЗІІ

*Тэлефакс са "Зваротам да беларусаў" аб ушанаванні памяці землякоў, расстраляных НКУСам у гады рэпрэсій на Левашоўскай пустэчы пад Ленінградам, перададзены з Санкт-Пецярбурга а трынаццатай гадзіне Беларускаму тэлебачанню М. Нікалаевым і А. Разумавым, ледзь адшукалі... праз тры гадзіны — у кошыку для непатрэбных папер.*

*Тэхнічныя службы, якія прымалі тэлефакс, палічылі зварот пецярбуржцаў чарговым жартам Беларускага Народнага Фронта і... шпурнулі ў кошык.*

**"Родзічы" № 3/5/ ад 21.02.92 г.**




### ЗДАРЭННІ

*Як стала вядома з афіцыйных крыніц, рэдактар газеты "Родзічы" Мяфодзі Сякера з'явіўся на чарговае паседжанне суполкі, якое адбылося за дзень да 8 сакавіка, з аднюсенькай кветкай у руках.*

*Калі ў яго спыталі, што гэта значыць, ён адказаў, што гэта — сюрпрыз. Каму? Першай жанчыне суполкі... То, пэўна, ён хацеў сказаць — спадарыні, якая першай пераступіць парог памяшкання, дзе сустракаюцца члены таварыства.*

*Сюрпрыз трапіў у рукі Алены Мікалаеўны Картавіцкай, якая зусім нядаўна пераехала на жыхарства ў Санкт-Пецярбург і метадам дэдукцыі адшукала суполку.*

*Дахаты Мяфодзі Сякера пайшоў без кветкі. Выгляд у яго быў адначасова і сумны, і загадкавы. Але нічога лепшага ў гэты дзень ад яго і не чакалі.*

**"Родзічы" № 4/6/ ад 21.03.92 г.**

...Што ж — не абыходзіліся і без жартаў: жыццё ёсць жыццё. Але побач з гэтым "Родзічы" друкавалі і сур'ёзныя артыкулы пра беларускае Адраджэнне ("Іншадумцы", "БЭЗ" вітае гасцей"), пра даўнюю і непарыўную культурную сувязь Беларусі і Санкт-Пецярбурга ("Святло ў далёкім акне"), апроч таго — інтэрв'ю з піцерскімі мастакамі Янкам Чэрнякевічам, Віктарам Сівухам, Юры Рудаком, з кампазітарам Ігарам Мацыеўскім, які напісаў шэраг песень і рамансаў на словы М. Багдановіча. У рубрыцы "Паэтычны вернісаж" друкаваліся вершы Аўгінні Кавалюк (С-Пб.), Наталлі Арсенневай (перадрук), Ірыны Багдановіч (Менск), Данілы Жукоўскага (пераклады).

На пасяджэнні суполкі, прысвечаным юбілею "Родзічаў", было выказана меркаванне аб мэтазгоднасці выдаць асобнай кніжкай усе нумары газеты, каб захаваць яе як дакумент свайго часу.

**Анатоль КІРВЕЛЬ,
пісьменнік.**

# ВІНЦЭНТ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ: «...МЫ НЯ ВЫРАКЛІСЯ СВАЙГО КРАЮ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

з'езда (Кангрэса). Прычынай стала прыняцце ім рэзалюцыі, паводле якой Беларусь павінна была ўваходзіць у склад Расійскай дэмакратычнай рэспублікі як аўтаномная, самастойная адзінка. І праз шмат гадоў памяць Вінцэнта захавала надзвычайнае ажыўленне, чаканне чагосьці важнага ў перапоўненым войскамі Мінску напярэдадні гэтай падзеі, гоман і крыкі з акружанага салдатамі тэатра, дзе праходзіў з'езд, кулямёты пры ўваходзе ў яго будынак, неадназначную рэакцыю насельніцтва на дзеянні бальшавікоў.

**З успамінаў В. Жук-Грышкевіча:** *"На другі дзень увесь Мінск гаварыў аб разгоне, ...пісала аб гэтым і расейская прэса. На кожным кроку чуліся дыскусіі ... У абсалютнай бальшыні дыскутуючых чулася абурэнне супраць бальшавікоў за разгон Кангрэсу... А калі пазней зьявілася вестка, што Кангрэс усё-ж сабраўся зноў у чыгуначным дэпо пад ахаронай чыгуначнікаў, якіх бальшавікі ня сьмелі крануць, што закончыў сваю працу і пераказаў усе свае паўнамоцтвы аб лёсе Беларусі Радзе Кангрэсу — чуліся словы пахвалы й задавальнення". (25-га сакавіка. Успаміны з Менску, Будслава, Вільні, Прагі, савецкай турмы. Таронта. 1978. С. 5—7).*

Нягледзячы на ўсю складанасць абставінаў, цяга да ведаў, адукацыі ў Вінцэнта была надзвычайнай, і калі ён даведаўся, што ў родным Будславе адкрылася беларуская гімназія, то адразу паступіў у 4-ты клас. Характэрна, што паўстала гімназія стараннямі мясцовай інтэлігенцыі і на сродкі жыхароў мястэчка і навакольных вёсак. "Цяга да навукі ў людзей была такая вялікая, што існуючыя там толькі чатыры класы змясцілі больш за 300 дзяцей", — згадваў пазней В. Жук-Грышкевіч. Заняткі працягваліся і падчас нямецкай акупацыі. Як найважнейшая падзея таго часу запомнілася Вінцэнту ўрачыстае святкаванне ў Будславе абвяшчэння 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі. Гісторыкі нашага часу пакрысе ўжо аднаўляюць праўду аб гэтым першым адраджэнні беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі. Таму ўяўляюць цікавасць непасрэдныя сведчанні аб вялікіх спадзяваннях людзей у сувязі з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі.

**З успамінаў В. Жук-Грышкевіча:** *"Аднаго дня, памятаю, наш дырэктар Васілевіч, узварушаны і вясёлы хадзіў па ўсіх клясах і дзяліўся з вучнямі гэтай радаснай навінай: "Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла незалежнасць Беларусі, наш край будзе вольным і незалежным, як калісь даўней... Цяпер беларусы самі будуць гаспадарамі ў сваёй зямлі... Абвяшчаньне незалежнасці Беларусі ёсць вялікім нацыянальным сьвятам для ўсяго беларускага народу, і наша гімназія мусіць адсвяткаваць гэта свята дастойна і ўрачыста". ...Нарэшце прыйшоў доўгачаканны дзень сьвяткаваньня. Людзей сабралася столькі многа, што яны запоўнілі залю, сумежныя клясы й нават сенцы. Прыйшлі яны з мястэчка і з суседніх і далейшых вёсак. Урачыстасць адчыніў дырэктар... Гэты вялізны натоўп людзей у замерлай цішыні ўспрыймаў як нешта сьвятое першы раз пачутыя словы са сваёй гісторыі... Пасля пачаўся канцэртны адзьдзел. Палілася стройная харавая мэлёдыя беларускай песьні,.. песні чаргаваліся з дэкламацыямі. ...У танцы прыймала ўдзел уся сялянская грамада. Народ спраўляў сваё нацыянальнае свята... Панавала атмасфера шчырай, натуральнай радасьці і задавальненьня. (25-га сакавіка. С. 9—11.)".*

Тагачасны Будслаў быў значным асяродкам нацыянальнага жыцця: акрамя гімназіі, працавалі клуб, бібліятэка, тэатр, хор, струнны аркестр. "Рунню зелянела беларуская культура, пашыралася па суседніх вёсках", — пісаў аб гэтым перыядзе В. Жук-Грышкевіч. Але ж вельмі неспрыяльным быў час для Беларусі: не паспелі адступіць нямецкія войскі, як пачалася савецка-польская вайна, і больш моцныя суседзі вырашалі за яе кошт свае ўласныя інтарэсы, падзяліўшы на часткі беларускі народ. Восенню 1919 года Будслаў быў акупаваны палякамі, а ў наступным годзе яны закрылі гімназію. "Вучні разыйшліся па сваіх хатах з жалем на чужую ўладу, што зачыніла ім дарогу да асветы. Але панесьлі з сабой беларускую кніжку, беларускую песьню, беларускую нацыянальную ідэю", — адзначаў В. Жук-Грышкевіч. Яму ўдалося прадоўжыць вучобу ў Віленскай беларускай гімназіі, дзе выкладалі знаныя дзеячы беларускага адраджэння А. Луцкевіч, М. Гарэцкі, А. Станкевіч і іншыя. Выхоўвалі яны вучняў у пашане да роднай мовы, культуры, гісторыі, ва ўмовах паланізацыі давалі прыклад служэння беларускай справе. Размяшчалася гімназія ў Базыльянскіх мурах, дзе працавалі шмат яшчэ якія беларускія арганізацыі. Ды і ўвогуле "за польскім часам" Вільня была цэнтрам культурнага, грамадска-палітычнага нацыянальнага жыцця Заходняй Беларусі. "Я быў прагны зліцца з беларускім жыццём, што адраджалася і расло ў гэтай слаўнай нашай сталіцы," — пісаў пра той час В. Жук- Грышкевіч. Нягледзячы на апантаную вучобу, матэрыяльныя цяжкасці і падзаробкі начным вартаўніком, ён разам з вучаніцай гэтай жа гімназіі Н. Арсеневай (цяпер знакамітай паэткай) пачалі выдаваць вучнёўскі часопіс. У ходзе першых выбараў у польскі сейм быў інструктарам Выбарчага камітэта па Браслаўскаму і Віленскаму паветах, агітаваў па сёлах і мястэчках за беларускіх кандыдатаў, якія маглі б абараняць інтарэсы свайго народа.

Пасля заканчэння ў 1922 годзе Віленскай беларускай гімназіі В. Жук-Грышкевіч паступае на факультэт славянскай філалогіі і гісторыі Карлава універсітэта ў Празе. Чаму ж здольны, але бедны беларус не атрымаў адукацыю на сваёй зямлі, а змог прадоўжыць вучобу ў Чэхаславакіі? Справа ў тым, што гэта краіна, якая юрыдычна прызнала БНР, выдзеліла яе ўраду на эміграцыі значную колькасць стыпендый для атрымання беларусамі вышэйшай адукацыі.

**З успамінаў В. Жук-Грышкевіча:** *"Для беларускай справы гэта мела вялікае значэнне, бо палякі ў Заходняй Беларусі былі супраць павелічэння ліку беларускай інтэлігенцыі й не прымалі матурыстаў зь беларускіх гімназіяў у польскія універсітэты. ...Польскія ўлады не давалі пашпартоў тым беларусам, што хацелі выехаць па навуку за граніцу. Але гэта ня стрымлівала нашых студэнтаў ад выезду ў Прагу. Яны ехалі нелягальна ... хоць і ведалі, што за гэта іх пазбаваць польскага грамадзянства". (Р. Жук-Грышкевіч. "Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча". Таронта. 1993. С. 42—43).*

Тут, у Чэхаславакіі, адной з найбольш дэмакратычных тагачасных еўрапейскіх дзяржаў, цэнтры беларускай эміграцыі (з 1923 года ў Празе знайшоў прытулак урад БНР, дзейнічала нямала культурна-асветных арганізацый), буйным асяродку беларускага студэнцтва (больш сотні навучэнцаў з Заходняй Беларусі, Латвіі, БССР), Вінцэнт не толькі спасцігаў навуку, але і набіраўся вопыту грамадскай працы, палітычнага змагання.

Вярнуўшыся з Прагі на бацькаўшчыну, ён з 1927 года выкладае гісторыю, беларускую мову і літаратуру ў Віленскай беларускай гімназіі, а таксама беларускую мову ў праваслаўнай духоўнай семінарыі, вышэйшай школе палітычных навук. У 1932 годзе нострыфікуе свой чэшскі дыплом у Віленскім універсітэце імя С. Баторыя, здаўшы дзяржаўныя экзамены і пацвердзіўшы ўжо цяпер польскім дыпломам права на выкладанне гісторыі і славянскай філалогіі. Чутны голас В. Жук-Грышкевіча і ў нацыянальна- грамадскім, культурным жыцці. Ён актыўны ў працы Віленскага навуковага таварыства, Беларускага вучыцельскага саюза, Таварыства беларускай школы, выступае з артыкуламі па гісторыі Беларусі ў нацыянальнай прэсе. Выходзіць яго праца "Росквіт беларускага краснага пісьменства". На агульнапольскім з'ездзе гісторыкаў (Вільня, 1935) выступіў з дакладам "Роля беларускіх зямель у польска-літоўскіх уніях". Ва ўмовах нацыянальнага, рэлігійнага ўціску беларусаў у міжваеннай Польшчы, узмацнення палітыкі іх паланізацыі В. Жук-Грышкевіч стаў поруч з А. Луцкевічам, А. Уласавым і іншымі, хто быў ядром беларускага нацыянальнага руху.

Напад фашысцкай Германіі на Польшчу, якім распачалася другая сусветная вайна, прынёс новыя выпрабаванні беларускаму народу. З аднаго боку, у выніку падзелу Польшчы дзвюма таталітарнымі сістэмамі Заходняя Беларусь была далучана да БССР, пачалася кансалідацыя нацыі, яднанне народа, а з другога — шквал арыштаў пасля прыходу Чырвонай Арміі абрынуўся на дзесяткі тысяч людзей (палякаў, беларусаў і інш.), пачаліся масавыя дэпартацыі ў глыб СССР. У Вільні прадстаўнікі новай улады сабралі былых настаўнікаў беларускай гімназіі быццам для прыцягнення іх да ажыўлення нацыянальнага жыцця, пры гэтым В. Жук-Грышкевічу прапанавалі нават працу ў беларускай газеце, але ўжо ў канцы верасня многія з іх былі арыштаваны органамі НКУС. Напачатку В. Жук-Грышкевіч сядзеў у Лукішках, а калі сталінскае кіраўніцтва перадало Вільню Літве (купіўшы гэтым права размясціць на яе тэрыторыі савецкія базы), В. Жук-Грышкевіча перавялі ў беластоцкую турму, а затым у вілейскую, мінскую, полацкую. І ўсюды былі яны перапоўненыя беларусамі, палякамі, якіх трымалі ў неверагоднай скучанасці, напаўгалоднымі, выбіваючы на допытах патрэбныя прызнанні, В. Жук-Грышкевіча прымушалі прызнацца ў шпіянажы супраць СССР. "У часе аднаго з такіх допытаў, — пісаў ён пазней, — мяне збілі так, што я самлеў, непрытомнага мяне занеслі ў карцэр, дзе трымалі тры дні" (а ён жа той суровай зімой 1940 года не абаграваўся). Як "сацыяльна-небяспечнаму элементу", "ворагу народа і савецкай улады", прызначылі 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Адбываў зняволенне ў Печлагу (Комі АССР), дзе ад голаду, холаду, хвароб, невыносна цяжкай працы на лесапавале, будаўніцтве самай паўночнай чыгункі гінулі тысячы беспадстаўна абвінавачаных людзей.

Цяжка сказаць, ці выжыў бы і як склаўся бы лёс В. Жук- Грышкевіча ў гэтых нечалавечых умовах, але нечаканы паварот у яго жыцці адбыўся, калі полымя другой сусветнай вайны сягнула за межы СССР. Паводле пагаднення паміж савецкім кіраўніцтвам і лонданскім эміграцкім урадам У. Сікорскага пачалося фарміраванне на тэрыторыі СССР польскага войска для барацьбы з гітлераўскімі акупантамі. Пры гэтым была дасягнута дамоўленасць аб залічэнні ў яго былых польскіх грамадзян — вязняў, дэпартаваных пасля далучэння Заходняй Беларусі, сярод якіх было шмат беларусаў. У сувязі з гэтым 12 жніўня 1941 года савецкі ўрад прыняў указ аб амністыі былых польскіх грамадзян, якія знаходзіліся ў турмах, канцлагерах, спецпасяленнях. Частка іх пайшла ў армію У. Андэрса або польскую дывізію імя Т. Касцюшкі.

Восенню 1942 года В. Жук-Грышкевіч быў залічаны ў армію Андэрса, а затым у яе складзе пакінуў СССР пасля разрыву ў красавіку 1943 года адносін паміж савецкім і эміграцкім польскім урадамі. Гэты шлях на чужыну стаў пачаткам яго эміграцкага лёсу. У другім польскім корпусе 8-й Брытанскай арміі (у ім налічвалася да 12 тысяч беларусаў) быў у Іраку, Егіпце, Палесціне, Італіі. Удзельнічаў у баях, у тым ліку і вядомай бітве пад Монтэ-Касіна ў маі 1944 года, у якой палегла нямала беларусаў і якая стала прарывам да доўгачаканага саюзнікамі наступлення, іх хуткага прасоўвання да Рыма. Яго ўдзел у баявых дзеяннях з фашыстамі адзначаны 4 узнагародамі, у тым ліку і медалём "Монтэ-Касіна".

Закончылася другая сусветная вайна ў Еўропе, і корпус Андэрса быў пераведзены ў Вялікабрытанію, а затым расфарміраваны. Трэба было прыстасоўвацца ў новым, чужым жыцці, і тут В. Жук-Грышкевічу зноў спатрэбіўся педагагічны вопыт: у 1945—1949 гадах выкладае гісторыю ў гімназіях, арганізаваных для былых вайскоўцаў 2-га польскага корпуса. Але хвалюе яго не толькі асабістае ўладкаванне, а і тое, як згуртаваць беларусаў у замежжы, каб не асіміляваліся, не расплыліся яны ў людскім моры, не забыліся роднай мовы, звычаяў і традыцый сваіх продкаў, ведалі гісторыю свайго народа і адчувалі сябе яго часцінкай, не згубілі сваіх гістарычных каранёў і дзеці эмігрантаў. Гэтым клопатам прасякнута ўсё жыццё В. Жук- Грышкевіча на чужыне. Куды б ні закідваў яго лёс, усюды ён быў ініцыятарам, арганізатарам грамадска-культурнага жыцця беларускіх асяродкаў. Адзін з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, якое паўстала ў 1946 годзе і было першай тут і першай пасляваеннай замежнай беларускай арганізацыяй увогуле.

Прыехаўшы ў 1950 годзе ў Канаду, абараніў дысертацыю "Лірыка Янкі Купалы" ў Атаўскім універсітэце і атрымаў вучоную ступень доктара філасофіі ў галіне літаратуры. Пры універсітэце Таронта намаганнямі В. Жук-Грышкевіча два акадэмічныя гады існаваў курс беларусаведы, які ён вёў. Па ініцыятыве В. Жук-Грышкевіча і ў многім яго клопатамі ў 1952 годзе адбылася першая сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая сабрала больш за 120 удзельнікаў на канадскім баку Ніягарскага вадаспада. Праведзеная Згуртаваннем беларусаў Канады і Арганізацыяй беларускай моладзі ЗША, гэтая акцыя заклала добрую традыцыю лучнасці суродзічаў, узгаднення іх дзеянняў: адбыліся ўжо 23 такія сустрэчы. Нямала сілаў ён прыклаў, каб у Таронта быў заснаваны ў 1954 годзе прыход Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

У 1954—1956 гадах В. Жук-Грышкевіч праводзіць падрыхтоўчую працу па заснаванню, а затым узначальвае беларускую секцыю радыё "Вызваленне" (пазней "Свабода") у Мюнхене, якая ў гады жорсткага ідэалагічнага, ваеннага процістаяння дзвюх грамадскіх сістэм несла недаступную слухачам на бацькаўшчыне інфармацыю.

Звязаўшы свой далейшы лёс з Канадай, В. Жук-Грышкевіч тут заўсёды ў цэнтры жыцця беларускай грамады: ён аўтар многіх яе пачынанняў, творца шмат якіх арганізацый, што спрыялі захаванню і абагачэнню беларускай культурнай спадчыны, распаўсюджванню ведаў пра Беларусь у канадскім грамадстве. Дзейнічае і сёння заснаваны ў 60-я гады намаганнямі В. Жук-Грышкевіча Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, які ўзгадняе культурна-асветную працу суполак, а таксама прадстаўляе беларусаў у канадскіх дзяржаўных і грамадскіх установах. Як старшыня гэтага камітэта, ён удзельнічаў у канферэнцыі "Правы і абавязкі" (Порт Эльджын у Антарыа, 1966), Таронцкай канферэнцыі па прававому становішчу культур (1968), якая стала значным крокам да ўвядзення з пачатку 70-х гадоў дзяржаўнай палітыкі захавання традыцыйных культур шматлікіх этнічных груп Канады. На другім кангрэсе канадскіх славян (Атава, 1967) В. Жук-Грышкевіч прыцягнуў увагу да невылучанасці беларусаў у асобную групу пры перапісах насельніцтва, аднясення іх чыноўнікамі да рускіх ці палякаў (па дзяржаве выезду і веравызнанню). Па яго пачыну напярэдадні кожнага перапісу сярод суродзічаў праводзіліся адпаведныя тлумачэнні, каб беларуская этнічная супольнасць выявілася ў сваёй сапраўднай колькасці. Спрычыніўся В. Жук-Грышкевіч і да выпраўлення памылкі ў статыстычных крыніцах Канады, у якіх аж да 1979 года беларуская мова лічылася дыялектам рускай. Энергічна працаваў ён у якасці першага старшыні створанага па яго ініцыятыве ў 1967 годзе Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе ("каб голас беларусаў быў чутны ў навуковым жыцці канадскім і канадскіх этнічных груп"). Яго руплівасцю заснаваны Фонд беларускіх падручнікаў (1973 год) і Фонд успамінаў з беларускага жыцця (1978 год).

Клопатам пра нацыянальнае самаўсведамленне суродзічаў, выхаванне моладзі ў беларускім духу, азнаямленне яе, а таксама канадскай грамадскасці з беларускай гісторыяй і культурай прасякнута публіцыстычная і навуковая праца В. Жук-Грышкевіча. Яго навуковая палеміка з прафесарам Атаўскага універсітэта В. Дж. Кэе дапамагла апошняму больш дакладна і праўдзіва вызначыць колькасць канадцаў беларускага паходжання, распавесці пра іх жыццё ў спецыяльнай публікацыі для дэпартамента грамадзянства і іміграцыі. Гэта англамоўнае выданне стала каштоўнай крыніцай інфармацыі аб Беларусі і беларусах. Азнаямленню з беларускай спадчынай спрыяў падрыхтаваны В. Жук-Грышкевічам раздзел кнігі "Дрэва канадскай сям'і", выдадзенай у 1967 годзе да стагоддзя дзяржавы. У публікацыях "БНР ці БССР", "25-га сакавіка" (Таронта, 1978), артыкулах у нацыянальным замежным друку палемізуе з савецкімі аўтарамі аб пачатках беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі. Адраджэннем яе В. Жук-Грышкевіч лічыць абвяшчэнне БНР, існаванне якой вымусіла бальшавікоў стварыць БССР, якая "ня ёсць ані дзяржавай, ані сувярэннай, ані беларускай". Таму сэнсам яго жыцця на эміграцыі стала палітычнае змаганне за незалежнасць Беларусі. Ён быў глыбока пераканаы, што БНР — "гэта наш агульнадзяржаўны беларускі твор", спадчына ўсіх беларусаў, якую трэба адбудоўваць. Таму В. Жук-Грышкевіч з 1968 года — першы намеснік, а ў 1970—1982 гадах — старшыня Рады БНР на эміграцыі. Зусім крыху ён не дажыў да абвяшчэння суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Памёр В. Жук-Грышкевіч 14 лютага 1989 года на 87-м годзе жыцця ў г. Бэры (Канада). Апошнім прытулкам яму сталі беларускія могілкі ў Іст Брансвіку (ЗША), якія суродзічы лічаць "лапікам беларускай зямелькі". Здаецца, усе трагічныя старонкі жыцця беларускай нацыі адбіліся ў лёсе В. Жук-Грышкевіча, асобы неардынарнай, цэльнай, якая пакінула глыбокі след у гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Ён любіў маці-Беларусь, але пражыў на чужыне больш паловы наканаваных яму гадоў, жорсткі час разлучыў яго з роднымі, пакінуў яшчэ маленькую дачку Рагнеду без бацькі. Як гэта адбілася на яе жыцці, дае ўяўленне ўспамін пра тыя часы пісьменніка, вучонага А. Лойкі: "Моцна ўразіла, калі пасля трэцяга курса з беларускага аддзялення філфака ў 1950 годзе выключылі Рагнеду Грышкевіч — выдатніцу, паэтэсу — выключылі з-за бацькі "за мяжой". ("Маладосць". 1995. № 7. С. 222). Няўмольна жорсткі час выключыў магчымасць сустрэчы дачкі і бацькі (пры яго жыцці), і толькі ў 1992 годзе Рагнеда Вінцэнтаўна наведала яго другую радзіму. Без пяшчоты дзеда раслі яго ўнукі і праўнукі. Але шчаслівы быў Жук-Грышкевіч тым, што ўсё жыццё аддаў служэнню беларускай справе, бацькаўшчыне, а на чужыне побач з ім была жонка Раіса, сябра, паплечнік, аднадумца. Ушанаваннем яго памяці стала падрыхтаваная ёю кніга дакументаў "Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча" (Таронта, 1993 год). А яго апошняй згадкай пра сябе стаў Беларускі крыж, душой пабудовы якога і старшынёй аргкамітэта быў В. Жук-Грышкевіч. Побач з іншымі манументамі ў прошчы Паўночна-амерыканскіх пакутнікаў (Мідлянд) паўстаў і беларускі помнік у гадавіну тысячагоддзя хрысціянства на Беларусі. І стаіць гэты памятны крыж як няўмольнае сведчанне беларускай спадчыны ў Канадзе, створанай руплівасцю і ахвярнасцю суродзічаў.

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

**Старэйшай беларускай пісьменніцы Аляксандры Саковіч (Іне Рытар) споўнілася 90 гадоў. Яна была сведкай і відавочцай падзей рэвалюцыі, грамадзянскай, першай і другой сусветных войнаў. Вымушаная пайсці ў выгнанне, больш за паўстагоддзя яна жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі. Творчасць А. Саковіч успрымаецца як бясцэнныя дакументы нашай эпохі. Пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніцы ў жнівеньскіх мінулагодніх нумарах "Голасу Радзімы" пісала Лідзія Савік. Сёння друкуем невялікае апавяданне Аляксандры САКОВІЧ.**

# САМА

**Аляксандра САКОВІЧ**

Іна малюе...

Вось дом. На ім вокны й комін. З аднаго боку дому — высокае зялёнае дрэва, а побач яго — ня меншая ад дрэва чырвоная кветка. Пад домам, праз цэлы аркуш паперы — чорная рыса. Гэта — ходнік. На ім із растапыранымі рукамі, адзін ля аднаго, тры чалавечкі: тата, мама, дзіця... Малюнак гатовы. Усё! Няма больш чаго дадаць.

Ёй хочацца малюнкам пахваліцца, але яна сама. Дзьверы із пакою ў калідор на замку.

Іна глядзіць на вакно. Яе вабіць гэты шырокі сьветлы квадрат у сьцяне, як птушку неба. Ды мама, ідучы на працу, заўсёды наказвае: "Ня лезь на вакно. Шыбы слабыя, можна вываліцца з другога паверху й забіцца". Іна добра памятае наказ, але ёй прыходзіць думка, што праз вакно яна можа паказаць малюнак тату. Ня так даўно мама атрымала татаў ліст. Кожнае начы дзесь далёка-далёка тата глядзіць на самую бліскучую зорку ў небе й думае пра Іну. І цяпер штовечара яны разам із мамай падыходзяць да вакна, глядзяць на тую самую зорку й кажуць тату: "Дабранач!"

Іна падцягвае крэсла да вакна, карабкаецца на яго. Стуль лезе на падаконьнік, становіцца на ўвесь рост, узьнімае малюнак высока над галавою, бліжэй да неба, каб тата лепей бачыў.

— Тата! — гукае яна. — Глядзі, як я намалявала!..

...Іна яшчэ памятае тату. Яна памятае ноч, калі мама разбудзіла яе, узяла із ложка, захутала ў коўдру й пайшла зь ёю да канапы, дзе сядзеў тата. Мама пасадзіла яму на рукі Іну й сама села побач. У пакоі было вельмі сьветла, бо гарэлі ўсе лямпы: і над вялікім сталом, і над пісьмовым, і на сьцяне каля канапы. У пакоі чамусьці былі чужыя дзядзькі. Адзін із іх сядзеў пры пісьмовым стале й, выцягнуўшы шуфляду, рыўся ў ёй. Другі пераглядаў кніжкі на паліцах. Іхнія шынелі й шапкі з чырвонымі абадкамі ляжалі на сьпінках крэслаў. Сусед, дзядзька Сымон, таксама быў у пакоі. Ён сядзеў ля вялікага стала, апусьціўшы голаў. Іна добра ведае, што ні на пісьмовым стале, ні на палічках ня можна нічога кранаць. Яна не разумее, чаму тата дазволіў рыцца на іх чужым. "А гэта што за дзядзькі?" — пытаецца яна голасна. Але ні тата, ні мама нічога не адказваюць. Тата толькі бліжэй прытуляе яе да сябе й цалуе... У тую ноч, разам із дзядзькамі, пайшоў і тата... Мама плакала...

На дварэ шарэе. Хутка з працы прыйдзе мама. Іна садзіцца на падаконьнік і спускае ногі, каб зьлезьці. Ёй робіцца страшна. Ля сьцяны насупраць вакна — ложак і вялікая шафа. Кут за шафай цяпер зрабіўся чорным. Іне здаецца, што там хтось стаіўся. Яна падбірае пад сябе ногі й бліжэй прыціскаецца да халоднае шыбы. Сядзіць нейкі час скурчыўшыся, баючыся зварухнуцца.

Запалілася сьвятло на першым паверсе, дзе жыве Рая, і яснай паласой лягло на пачарнелы перад домам сьнег. У Раі Іна ўчора бавілася. Раіна мама нарадзіла дзяўчынку-сястрычку, а ўчора яны купалі яе. У дзяўчынкі такія малюсенькія рукі й ногі. Яна пляскала імі па вадзе й штось весела гукала. Цёплая вада пырскала із місы на падлогу, на Раю й на Іну, бо яны стаялі блізка. Ім было так сьмешна! А пазьней Раіна мама дала Іне нават крыху патрымаць малую. Яна сядзела зь ёю на канапе. Ад захутанай у ружовую коўдрачку дзяўчынкі йшло цяпло па Іінbacks руках, па ўсім целе... І цяпер радасны ўспамін саграе: "Каб у мяне была такая сястрычка", — марыць яна.

Зусім зьмерклася. Над брамай пры ўваходзе на двор, на вуліцы засьвяціліся электрычныя ліхтары. Калі зьвініць з вуліцы трамвай, сіняваты пук сьвятла ўспыхвае над дратамі. Іна ня зводзіць вачэй ад брамы, чакае на маму. Нарэшце яна бачыць яе. Мама ўвайшла на двор, глядзіць на вакно, махае рукою. Іна адразу забываецца на ўсе страхі. Яна не баіцца зьлезьці з вакна, не баіцца бегчы да дзьвярэй насустрач маме.

— Мая мама, мая мама дома, — голасна сьпявае яна ў радасьці.

Вячэрнія шчасьлівыя гадзіны мінаюць хутка. А восьмай гадзіне яны кажуць тату "Дабранач", і мама кладзе Іну ў ложак. Гасіць вялікую лямпу й запальвае іншую пад зялёнаю засткаю на пісьмовым стале. На стале — стос вучнёўскіх сшыткаў. У пакоі ціха. Толькі зрэдку шалясьцяць сшыткі, якія пераглядае мама. Іна заплюшчвае вочы, але ёй ня сьпіцца.

— Мама!

— Што, мая любая?

— У Раі сястрычка.

— Я ведаю.

— Мы яе купалі.

— Ты мне казала.

— Я табе казала... Яна такая маленькая-маленькая... Сьмешненькая...

— Сьпі, Іначка, ужо позна.

Іна змаўкае. У сваім ложку, нават у паўцемені пакою, яна адчувае сябе добра, яе не палохаюць цёмныя куты, бо тут мама. А заўтра? Заўтра мама ізноў пойдзе на працу, а яна застанецца сама.

— Мама, я хачу мець маленькую сястрычку.

Штось вельмі хвалюючае, ня проста жаданьне паразмаўляць, пачулася ў Ііным голасе. Мама кідае пераглядаць сшыткі, ідзе да Іны, схіляецца над ёю, гладзіць па галоўцы, цалуе. Іна ахоплівае шыю маці рукамі.

— Я хачу мець маленькую сястрычку.

— У нас няма каму малую глядзець.

Іна ўсхопліваецца на ногі.

— Я, я буду яе глядзець!.. Я буду... трымаць яе на руках, калі ты пойдзеш на працу...

Мама бярэ Іну з ложка, садзіць сабе на калены, туліць да сябе, ласкава тлумачыць, што з маленькай сястрычкай мама сама павінна быць дома, а ёй няма як. Яна мусіць працаваць, бо ім трэба грошы, каб жыць, каб паслаць тату пачку.

Іна пераканана.

— Тады, — просіць яна, — нарадзі мне хоць котку.

# ВЯРТАННЕ Ў СПАДЧЫНУ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

запраўленым у чатыры ніткі для двухколернай асновы і для ўтку, для чаго бяруцца ніткі двух такіх самых кантрастных колераў, як і для асновы. У выніку складанага ходу панансоў утвараліся два слаі асновы. Дываны ткуць уручную звычайным палатняным перапляценнем ваўняных нітак. Пры дапамозе драўлянага прутка ў месцах узору выцягваюць наверх ніткі асновы ніжняга слою, адначасова перасоўваючы ўніз ніткі асновы верхняга слою, але другога (кантраснага) колеру. Такім чынам пэўны каляровы ўзор верхняй асновы дывана становіцца як бы негатыўным адбіткам на кантрастным яму фоне ніжняй асновы дывана. Ручное выбіранне ўзору дазваляла ткачысе адвольна кампанаваць любы ўзор на кроснах.

Тэхніка двухасноўнага ткацтва ў розныя часы развівалася на многіх кантынентах свету: на Блізкім Усходзе, у Паўднёвай і Паўночнай Амерыцы (Перу і Мексіцы), Еўропе (Італіі, Іспаніі, Даніі, Нарвегіі, Швецыі, Фінляндыі, Польшчы, Старажытнай Русі, у тым ліку ў Беларусі). Згодна з археалагічнымі раскопкамі двухасноўная тэхніка ткацтва з X—IX стагоддзяў была вядомая на тэрыторыі старажытнай Русі, з XII—XIII стагоддзяў — у Швецыі (знойдзены падвойны пас таго перыяду); з XVI—XVII стагоддзяў — у краінах Скандынаўскага рэгіёна; у Англіі і Германіі наглядаўся яе росквіт у XVII—XIX стагоддзях, у Польшчы — з канца XVIII стагоддзя.

Да нашых дзён жыве гэта традыцыя старажытнага народнага ткацтва ў Мексіцы і Перу, дзе ткуць выключна вузкія тканіны і шыюць з іх сумкі. У Іспаніі, Нарвегіі і Швецыі гэту тэхніку ўжываюць толькі прафесійныя мастакі, якія працуюць у галіне тэкстылю. У Італіі падвойныя дываны прадаюцца на кірмашах. У паўночна-ўсходняй Польшчы двухасноўную тэхніку пры вырабе дываноў ужываюць як сялянскія ткачыхі, так і майстрыхі такога буйнога вытворча-мастацкага аб'яднання, якое развівае традыцыі польскага народнага мастацтва, як "Цэпелія". І толькі ў Беларусі выраб падвойных узорных дываноў амаль знік.

Між тым, гэта традыцыйны для Беларусі від народнага ткацтва, які яшчэ і сёння прымяняецца асобнымі ткачыхамі Брэсцкай і Гродзенскай абласцей для ўласнага ўжытку. Акрамя таго, сярод шасці розных ткацкіх тэхнік і сёння ў вёсках Брэстчыны, Віцебшчыны, Міншчыны і Гродзеншчыны ўжываюць і другі від двухасноўнай, больш простай тэхнікі пры вырабе паласатых, а не ўзорыстых посцілак падвойнай шырыні пад назвай "вясёлка". Падвойнае ткацтва ўзнікла ў Беларусі, відавочна, у раннім сярэднявеччы, разам са з'яўленнем у XI—XIII стагоддзях у розных гарадах і вёсках гарызантальных ткацкіх станкоў, дэталі якіх разам з чоўнікамі і фрагментамі тканін былі знойдзены пры археалагічных раскопках культурных слаёў нашых старажытных гарадоў — Гродна, Полацка, Мінска, Віцебска (вядома, што згодна з савецкай гісторыяй беларускія гарады лічыліся старажытнарускімі). Менавіта гэтыя археалагічныя знаходкі разам з іншымі далі падставу польскаму даследчыку Адаму Нагліку сцвярджаць у 1961 годзе, што тэхніка двухасноўных дываноў паходзіць з Расіі, а не з Германіі, як лічыў у 30-я гады нямецкі этнограф Конрад Гагм — Hahm (некаторыя перакладаюць як Хаам), дырэктар Берлінскага музея, які на той час не меў пэўных вынікаў археалагічных даследаванняў. Ён першы даследаваў калекцыю падвойных дываноў канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў, якія паходзілі з вузкага рэгіёна, размешчанага на парубежжы рассялення прусаў, палякаў і беларусаў. Ён жа адзначыў, што пасля 1860 года ва Усходняй Прусіі падвойныя дываны ўжо не ткаліся і што з сярэдзіны XIX стагоддзя іх выраб сканцэнтраваўся ў пэўным вузкім рэгіёне Еўропы: у ваколіцах Гродна — Беластока — Аўгустова (Сувалкаў), дзе, як вядома, рассяляўся на той час беларускі этнас. З 1795 па 1921 год гэты рэгіён знаходзіўся ў складзе Расійскай імперыі, з 1921 па 1939 год — у складзе другой Рэчы Паспалітай, з 1939 да 1945 года — у складзе БССР, а пасля 1945-га быў падзелены паміж Польскай Народнай Рэспублікай і БССР.

На Варшаўскай выставе ў 1938 годзе прафесар К. Гагм упершыню ўвёў у навуковы ўжытак тэрмін "гродзенскія дываны" для пэўнай групы экспанатаў, якія там дэманстраваліся. Геаграфічны арэал распаўсюджвання і ткацтва падвойных дываноў Гродзенскага рэгіёна ён тады не вызначыў, але лічыў, што ў Польшчу падвойныя дываны трапілі з Германіі на стыку XVIII—XIX стагоддзяў. Пакуль у Беларусі ніхто не праводзіў навуковага даследавання падвойных дываноў увогуле, у тым ліку і згаданых у 1938 годзе К. Гагмам "гродзенскіх дываноў".

Уяўленне аб тых "гродзенскіх дыванах" пачатку XIX стагоддзя можна атрымаць у працы польскай даследчыцы Г. Храмувны, надрукаванай у 1939 годзе. Там жа пададзены чорна-белыя рэпрадукцыі з некалькіх "гродзенскіх дываноў", датаваных 1936, 1937 і іншымі гадамі. Акрамя таго, яна падала звесткі пра "гродзенскія дываны", якія да 1939 года знаходзіліся ў Гродзенскім акруговым музеі, і адзначыла, што іх каляровая гама была пераважна зялёна-фіялетавая ці светла-зялёная ў спалучэнні з цёмна-фіялетавай, блакітна-чырвоная ці сіне-чырвоная, аднак сустракалася і сіне-карычневая. К. Гагм падзяліў "гродзенскія дываны" паводле іх прызначэння на 2 тыпы: для пакрыцця ложкаў і пакрыцця сталоў на сямейных і рэлігійных святах. Ён жа адзначыў, што іх дарылі маладым падчас шлюбу, раскрыўшы іх сюжэтны змест: на дыванах былі вытканы франтальныя выявы мужчыны і жанчыны сярод профільных выяў жывёл і птушак, а таксама раслін, уключаючы сімвалічную выяву дрэва жыцця.

Прыведзеную інфармацыю я

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# І ЗНОЎ «КАЛЯДНЫЯ ЎЗОРЫ»



**У Цэнтры этнаграфіі, фальклору і рамёстваў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі працуе традыцыйная перад航годняя выстава "Калядныя ўзоры". Яе арганізатар — Беларускі саюз майстроў народнай творчасці. Беларускія майстры прадэманстравалі ўсе грані свайго таленту. Уражваюць дасканаласцю вырабы з саломы і льну, керамікі і скуры, разныя і каваныя. Выстава адкрыла новыя імёны, новыя напрамкі творчасці.**

**Сярод экспанатаў — мініяцюрныя ёлачныя цацкі з саломкі і калядныя маскі. А адкрыццю выставы папярэднічала выступленне фальклорнага ансамбля з Вілейкі "Нарачанскія гарэзы", які паказаў гасцям калядны абрад.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступаюць "Нарачанскія гарэзы"; экспанаты выставы.**



СПОРТ



Імя мацнейшага беларускага шахматыста, міжнароднага гросмайстра Барыса Гельфанда вядомае ва ўсім свеце. Сваімі перамогамі ён прынёс беларускай шахматнай школе сусветную вядомасць. Праўда, пачатак мінулага года складваўся для Барыса не зусім удала, яго ўдзел у турнірах не прыносіў жадаемых перамог. Але няўдачы загартоўваюць, а сабранасць дапамагла аднавіць спартыўную форму. Выступленне Гельфанда ў супертурнірах, што прайшлі ў Вене і Цілбургу, прынеслі пераканаўчыя перамогі, а ў шахматных спаборніцтвах у Дортмундзе ён стаў трэцім. Гэта дазволіла беларускаму майстру зноў заняць дастойнае месца ў дзесятцы наймацнейшых шахматыстаў свету.

НА ЗДЫМКУ: Барыс ГЕЛЬФАНД з жонкай Зояй.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

НАВІНКА

## СЮРПРЫЗ ДЛЯ КНІГАЛЮБАЎ

Выйдзе першы нумар штомесячнага часопіса "Сусветная літаратура". Першапачатковы тыраж новага выдання складзе пяць тысяч экземпляраў, якія будуць распаўсюджвацца ў Беларусі, краінах СНД і далёкага замежжа. Часопіс пазнаёміць чытачоў з лепшымі творамі сусветнай літаратуры, у тым ліку і беларускай.

— У нашым часопісе не будзе месца нізкапробнай пісаніне, — сцвярджае галоўны рэдактар "Сусветнай літаратуры" Таіса Бондар. — Мы будзем друкаваць толькі тыя творы, якія ўносяць істотны ўклад у сусветную літаратуру. Прычым гэта будуць творы не толькі сучасных пісьменнікаў, але і класікаў усіх часоў і народаў.

У першым нумары чытачоў чакаюць: сустрэча з раманам вядомай амерыканскай пісьменніцы Урсулы Ле Гуін "Левая рука цемры", філасофская паэзія нобелеўскага лаўрэата Рабіндраната Тагора, "Чарнобыльскія апавяданні" беларускага празаіка Івана Пташнікава, вершы турэцкага паэта Назыма Хікмета, апавяданні венгерскага пісьменніка Жыгмонда Морыца і іншыя творы сусветнай літаратуры.

Пры часопісе "Сусветная літаратура" створаны Міжнародны грамадскі савет, у які ўвайшлі вядомыя замежныя дзеячы літаратуры: Найдан Вылчаў (Балгарыя), Рудольф Дорман (Германія), Франсуа Ларан (Францыя), Уладзімір Маканін (Расія), Грант Матэвасян (Арменія), Юрый Мушкецік (Украіна), Юрый Туулік (Эстонія), Ян Чыквін (Польшча).

ПОСПЕХ

## БЕЛАРУСКАГА ВУЧОНАГА АЦЭНЬВАЕ ЗАМЕЖЖА

"Міжнародная кніга Выдатнага лідэрства", якая выдаецца Амерыканскім біяграфічным інстытутам, вядомая сярод вучоных і навуковых дзеячаў усяго свету. Экземпляры яе захоўваюцца ва ўсіх сусветных бібліятэках і універсітэтах, у выдавецтвах і вядучых кампаніях усяго свету.

"Міжнародная кніга Выдатнага лідэрства" — своеасаблівае дасье навуковага генафонду Зямлі. У 1996 годзе ў гэтае выданне занесена і імя беларускага вучонага — прэзідэнта Беларускай інжынернай тэхналагічнай акадэміі прафесара Уладзіміра Калешкі. Яго кандыдатура была рэкамендавана амерыканскім Урадавым саветам рэдактараў.

"Наш выбар ажыццяўляецца выключна на падставе заслуг, і я віншую Вас з тым, што вы ўвасабляеце сабой прыклад, дастойны пераймання", — гаворыцца ў віншавальным пісьме дырэктара выдавецтва Дж. М. Іванса.



На вачах у ашаломленых жыхароў адной з кватэр дома па Маскоўскаму праспекту ў Віцебску да іх на балкон няпрошаным госцем спусціўся чорны гусь. Відаць, адстаў ад чарады суродзічаў, а адзін не рашыўся ляцець у далёкія цёплыя мясціны. Так і жыве з таго часу занесеная ў Чырвоную кнігу чорная казарка пад наглядам клапатлівай гаспадыні Раісы Барадзіной.

НА ЗДЫМКУ: Р. БАРАДЗІНА са сваёй госцяй.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

# ВЯРТАННЕ Ў СПАДЧЫНУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ведала, калі ўпершыню ўбачыла выставу падвойных дываноў у Беластоку. Тады ж у мяне ўзнікла ідэя правесці выставу падвойных дываноў з Беластоцкага музея ў Мінску. Гэта было ў лістападзе 1992 года. Давялося па-добраму пазайздросціць палякам, што яны не толькі маюць багаты збор падвойных дываноў (з 1949 года музей сабраў больш за 300 адзінак дываноў і пано), але і паспяхова развіваюць гэты від народнай творчасці, падключыўшы да яго прафесійных мастакоў яшчэ ў 30-я гады.

Між тым, я ведала, што Беластоцкі рэгіён этнічна звязаны з Беларуссю, што яго матэрыяльная і духоўная культура вельмі падобная да культуры Брэсцкага і Гродзенскага рэгіёнаў, што падвойныя дываны як від народнай творчасці павінны былі не толькі бытаваць, але і вырабляцца на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Было відавочна, што за гады савецкай улады мы па нядбайнасці страцілі многія сялянскія і местачковыя віды рамяства, а палякі яшчэ падчас дэмакратычна-буржуазнай Польшчы ашчадна паставіліся да народнай творчай спадчыны. Яны яе не толькі сабралі ў музеях, але і надалі ёй новы імпульс для развіцця. І мне падалося, што прапанова арганізаваць у Мінску (бо ў Гродне яна ўжо была гадоў 10 назад) выставу падвойных дываноў з калекцыі Музея акруговага ў Беластоку — стане штуршком для нашых навукоўцаў, музейных работнікаў і мастакоў тэкстылю, каб не толькі шукаць беларускія падвойныя дываны ў вёсках, мястэчках і храмах, але і шукаць сучасных ткачых, якія іх вырабляюць у хатніх умовах. І прапанова дала плён. Яе падтрымалі ў 1993 годзе такія энтузіясты народнай творчасці, як Вольга Лабачэўская і Люба Мяртвішчава. Толькі дзякуючы іх клопатам і намаганням, мінчане ўбачылі ўпершыню падвойныя дываны і азнаёміліся з амаль знікшым беларускім рамяством. Менавіта В. Лабачэўская і Л. Мяртвішчава ўзначалілі пошук беларускіх падвойных дываноў і іх ткачых, і, як бычым, пошук іх быў паспяховым. Выстава вярнула ў нашу спадчыну занядбаны від народнага мастацтва і падштурхнула прафесійных мастакоў да распрацоўкі ўласных тэкстыльных твораў у гэтай тэхніцы. Нашы суседзі-палякі паднеслі нам добры прыклад стаўлення да сваёй спадчыны.

Нягледзячы на велізарныя страты музейных і храмавых каштоўнасцяў Беларусі ў час першай сусветнай вайны і на тэрыторыі БССР у час другой сусветнай вайны, на сённяшні дзень пры вельмі беглых пошуках ім удалося знайсці 25 падвойных дываноў, якія паходзяць з Гродзенска-Брэсцкага парубежжа.

За кароткі прамежак часу арганізатарам выставы ўдалося расшукаць шэсць беларускіх ткачых, якія яшчэ ткуць ці ткалі падвойныя дываны ў 50-я гады. Іх дываны ўпрыгожылі беларускі раздзел выставы. Гэта А. Антасевіч з вёскі Канюхі Гродзенскага раёна, В. Белакоз з вёскі Лядкі Мастоўскага раёна, А. Жук з вёскі Угляны Камянецкага раёна, Я. Райская з вёскі Адэльск Гродзенскага раёна, М. Старун з вёскі Таруны Пружанскага раёна, В. Шышко са Свіслацкага раёна.

Такім чынам, пашукаўшы па сусеках, знайшлі 25 падвойных дываноў, выrabленых у Беларусі з сярэдзіны XIX стагоддзя да канца XX. Пошукі старых дываноў неабходна працягваць агульнымі намаганнямі і надалей. Да таго ж трэба ўлічыць, што ў час другой сусветнай вайны з Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея знік зялёна-фіялетавы падвойны дыван, датаваны 1888 годам, які ў свой час набыў для музея І. Ядкоўскі, і іншыя дываны, што там знаходзіліся.

Некаторыя так званыя "гродзенскія дываны" яшчэ можна знайсці ў беларускіх храмах, як напрыклад, знайшлі зялёна-чырвоны дыван, датаваны 1902 годам, у касцёле гарадскога пасёлка Поразава Пружанскага раёна Гродзенскай вобласці, у касцёле вёскі Індура Гродзенскага раёна, у царкве вёскі Гудзевічы Мастоўскага раёна.

Прыведзеныя вышэй факты сведчаць, што падвойныя дываны бытавалі і выrabляліся на тэрыторыі БССР да 70-х гадоў XX стагоддзя ўздоўж мяжы сучаснага беларуска-польскага парубежжа. Зафіксаваны факт вырабу падвойных дываноў 50-я — 60-я гады XX стагоддзя ў вёсках Воўчык, Угляны і Баранкі Камянецкага раёна сведчыць, што падвойныя дываны выраблялі тут і раней, але з развіццём урбаністычных адносін патрэба ў іх адпала. Дываны пачалі вырабляць варсовыя на Брэсцкім дывановым камбінаце з 1960 года. Узнік попыт менавіта на варсовыя жакардавыя дываны. А больш шырокае бытаванне ў XIX — пачатку XX стагоддзяў падвойных дываноў у многіх раёнах Гродзенскай вобласці таксама сведчыць, што тут існаваў не адзін, а можа і некалькі цэнтраў іх вырабу.

Невялікая калекцыя такіх дываноў была сабрана яшчэ ў 70-я — 80-я гады дзякуючы асабістым намаганням двух краязнаўцаў-энтузіястаў Гродзеншчыны — дырэктара школьнага музея в. Гудзевічы Белакоза і былога навуковага супрацоўніка Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея Валянціны Волах.

Выкарыстоўваючы тэхніку беларускага двухслойнага ткацтва, ужыванага пры вырабе ўжо згаданых посцілак пад назвай "вясёлка", мастачка М. Віннікава, былы навуковы супрацоўнік навукова-даследчай мастацка-эксперыментальнай лабараторыі Упраўлення мастацкай прамысловасці пры Міністэрстве мясцовай прамысловасці БССР, распрацавала ў 70-я гады цікавую тэхніку двухасноўных узорных тканін, прыстасаваную да сучасных ткацкіх станкоў і паўваўняных нітак. Навізна была ў тым, што можна атрымліваць на падвойнай аснове розныя ўзоры з многімі колеравымі адценнямі, а не толькі папярочныя вясёлкавыя палосы. На жаль, ткачыхі фабрык мастацкай прамысловасці, для якіх тэхніка распрацоўвалася, пакуль не ўжываюць тэхніку двухасноўнага ўзорнага ткацтва, спасылаючыся на працаёмкасць працэсу наладкі станка. Такім чынам, Беларусь мела сваю асаблівасць: тут развіваліся два віды двухасноўнага ткацтва, а не адзін.

Мая ЯНІЦКАЯ.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 7. Падпісана да друку 6.1.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.